


# Напрамкі харчовай праграмы Беласточчыны

У папярэднім артыкуле, які датычыўся нядаўна прынятай пленумам Ваяводскага камітэта ПАРП харчовай праграмы Беласточчыны, мы гаварылі аб заданнях у галіне жывёла- і свінагадоўлі, а таксама аб заданнях у раслінінай прадукцыі.

Сёння хочам звярнуць увагу на справы, якія гарантуюць развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці.

**КАРМЫ**

Вядома ўсім, што рашаючае значэнне для жывёлагадоўлі мае дастатковая колькасць добраякаснага корму. Ёсць у нас многа зялёных угоддзяў, але кармавая гаспадарка Беласточчыны мае многа недахопаў, а найбольшым з'яўляецца недахоп сочнага корму зімою (асабліва квашонак).

Вось асноўныя крыніцы поўнага забеспячэння кармамі:

● адпаведны догляд меліярацыйных установак і рацыянальная гаспадарка вадою;

● высокія дозы мінеральных угнаенняў на зялёных угоддзях;

● своечасовая ўборка сена і зялёнак з такім разлікам, каб у 1980 г. мінімум 100 тыс. гектараў лугоў давала тры пакосы сена або зялёнак;

● развіццё вытворчасці квашонак і сенаквашонак, каб у 1980 г. было іх прынамсі ў два разы больш, чым ёсць цяпер;

● сушэнне сена згодна з найбольш рацыянальнымі спосабамі (на казлах, дасушваць вентылятарамі, рабіць суш);

● у спецыялістычных гаспадарках (жывёлагадоўля) ў „кватэрным выпасе" даваць мінімум 350 кг NPK на гектар (у іншых гаспадарках — прынамсі 250 кг NPK).

На паляпшэнне кармавой базы будзе мець уплыў павелічэнне да 100 тыс. гектараў пажніўных культур. Трэба будзе засеяць 30 тыс. гектараў цукровых буракоў на корм, а таксама 25 тыс. га кукурузы і столькі ж люцэрны. На слабейшых глебах трэба прапагандаваць асабліва кармавы лубін, які мае ў 4 разы больш агульнага бялка, чым збожжа, а адначасова дае магчымасць сабраць з гектара на 3-9 цэнтнераў збожжа больш, калі яно вырошчваецца на лубіне.

**КАДРЫ, АБСЛУГОЎВАННЕ**

Вельмі важным для сучаснай гаспадаркі з'яўляецца абслугоўванне. Беластоцкая праграма прапануе мадыфікаваць яго. І так, у паветах ЭГО абслугоўванне індывідуальных гаспадароў тэхнікай будуць пераймаць ПГР-ы. У іншых паветах вядучую ролю адыгрываюць сельгасгурткі. Асноўныя прадукцыйныя работы будуць таксама выконваць машынныя калектывы і індывідуальныя гаспадары, што маюць у сваім распараджэнні машыны.

Да 1980 г. у нашым ваяводстве трэба падрыхтаваць каля 5 тыс. чалавек з сярэдняй сельскагаспадарчай адукацыяй, а наогул ахапіць прафесіянальнай адукацыяй каля 38 тыс. чалавек. У сувязі з гэтым праграма гаворыць аб большай канцэнтрацыі ўсіх форм сельскагаспадарчай асветы, асабліва школьнай, арганізуючы т.зв. павятовыя школы — цэнтры сельскагаспадарчай вучобы.

**КАПІТАЛАЎКЛАДАННІ**

Шмат прадуктаў нашай сельскай гаспадаркі трэба было вывозіць на перапрацоўку ў іншыя ваяводствы. У апошнім часе многа змянілася ў гэтай галіне. Працуе цукроўня, працуюць мясакамбінаты, сучасныя малачарні. Сельская гаспадарка будзе даваць больш прадукцыі, і таму патрэбныя будуць новыя аб'екты спажывецкай прамысловасці.

У 1976—1980 гадах будуць перададзены у карыстанне: прадукцыйна-складавы халадзільнік, фруктова-гароднінны завод, мясазавод і бойня воднай птушкі, завод халодных напіткаў („Кока-" або „Пепсі-кола"), элеватар, фабрыка корму, два утылізацыйныя заводы і тры малочныя.

У наступнай пяцігодцы павінна быць пабудавана прынамсі 635 тыс. інвентарскіх месц, у тым ліку 85 тыс. у ПГР. 260 вёсак атрымае водаправоды. У 1980 г. каля 100 тыс. гаспадароў павінна мець т.з. „сіловыя выпусты" і карыстацца электраэнергіяй пры машынах.

Апрацаваў **А. Карпюк**



*Будова мосту праз Об.*




## Маладосць старога Сургута

**(Працяг са стар. 1)**

24 ліпеня. Пагодны дзень. Карабль наш прадаўжае курс. Над намі яснае сонца, пад намі цёмная вада, з бакоў зелень тайгі. А $8^{15}$ збіраемся ў сталовай, ямо снеданне. І раптам па радыё: „Выступіць зараз госць з Народнай Польшчы Аляксандр Баршчэўскі". Гэта інтэрв'ю, якое я даваў у Хантымансійску. Мінут 12 майго выказвання аб Сібіры. Нават досыць гладка выйшла, а калі запісваўся, здавалася, што гавару вельмі дрэнна.

Усе прысутныя ў сталовай пісьменнікі галдзяць, ядуць, бразгаюць нажамі і вілкамі, ніхто з іх нават не задумваецца, што па радыё выступае адзін з іх — я. Я, зразумела, у духу крыўджуся, але таксама нахіляюся над сваёй талеркай і пабразгваю вілкай.

У $10^{55}$ падплываем да чарговай мэты нашага падарожжа — да старыннага сібірскага горада Сургута. З левага боку відаць цікавая драўляная вежа, няма тут будынка прыстані. Толькі гойдаецца на ветры надпіс „Братский привет участникам декады литературы народов СССР".

Выходзім на бераг. Няма натоўпу. Стаяць аўтобусы, сядаем і едзем глядзець горад.

Сургут быў заснаваны ў 1594 г. Нямала ў ім было ў мінулым дзекабрыстаў, народнікаў і марксістаў. Зараз Сургут — гэта ключ да сыравіны Заходняй Сібіры. Горад налічвае 56.000 жыхароў. У Сургуце 10 фабрык і заводаў: нафтаперапрацоўчы камбінат, рыбная фабрыка, электрастанцыя і інш. Ёсць тут таксама 10 школ. Сярод іх нафтавы тэхнікум, музыкальнае вучылішча, інжынерская школа.

Сургут гэта па сутнасці новы горад. Няма ў ім старых будынкаў. У XVII, XVIII і XIX ст.ст. горад спусташалі вялікія пажары. Амаль усё старое згарэла. Зрэшты, ад вільгаці, дажджоў, снегу і вятроў будынкі хутка знішчаюцца. Найстарэйшаму будынку ў Сургуце толькі 70 год.

Найніжэйшая тэмпература —54° бывае ў студзені, найвышэйшая +32 — у ліпені. Лета тут кароткае, і таму не паспявае тут даспець жыта ці пшаніца. Вырошчваюць тут толькі бульбу, капусту. Ёсць тут цяпліцы, якія даюць гораду гуркі, памідоры круглы год, але пакуль што іх мала.

У $11^{30}$ сустрэча ў гарадскім камітэце КПСС. У прэзідыуме І сакратар і дырэктары гарадскіх прадпрыемстваў.

— Наш раён, — гаворыць сакратар, — багаты пушнінай, рыбай, лесам. Найбольшае наша багацце — гэта нафта і газ. Зараз здабываем у раёне 45-50 млн. тон у год. Будзем здабываць больш. Калі выедзеце за горад, убачыце дзесяткі паходняў згараючага дарам газу. Будуем аднак вялікую газавую электрастанцыю і ўсе гэтыя паходні пагасім. У нашым горадзе пускаем у ход адзін з найбольшых у Сібіры камбінат будовы дамоў. Цяпер у горадзе на аднаго чалавека прыпадае 5 кв. метраў жылля, і гэта найлепш сведчыць аб нашай дрэннай сітуацыі. Мусім будаваць хутчэй, тым больш, што кожны год прыбывае гораду 5.000 новых жыхароў.

— Дарог у раёне мала. Галоўная форма транспарту — самалёты і верталёты. Перавозяць яны ў год 700.000 пасажыраў. З гэтага вынікае, што, мабыць, лётаем найбольш у СССР.

— Знаходзіцца ў апошняй фазе будаўніцтва магутнай электрастанцыі. Дагэтуль ток ішоў да нас з Цюмені, зараз пойдзе ў другі бок. Пабудавана лінія перадачы току ў 500.000 вольт напружання.

У горадзе і раёне вельмі танны ток. У Маскве і іншых гарадах жыхары плацяць за кілават 4 капейкі, у Сургуце і раёне — толькі 2 капейкі.

30.000 жыхароў Сургута і раёна мае грашовыя ашчаднасці у касах. У сярэднім на кніжку прыпадае па 900 рублёў. У мінулым годзе на кожнага чалавека было прададзена тавараў на 1500 рублёў у год.

— Горад не мае свайго тэатру, і гэта не прыносіць нам славы, — гаворыць сакратар. — Аднак часта прыязджаюць да нас трупы з Цюмені і Табольска.

— Насельніцтва нашага гарадка дысцыплінаванае і працавітае. Аднак прыязджаюць да нас і людзі, якія шукаюць таннага рубля, людзі, якія знаходзяцца ў калізіі з правам і грамадскім парадкам. Не яны аднак акрэсліваюць характар нашага горада.

— Думаю, — канчае сакратар, — што ўбачыце ў нашым раёне многа цікавага і непаўторнага.

А $11^{55}$ выходзім на вуліцу. Едзем у аэрапорт. Паляцім на верталётах у глыбокую тайгу.

**Алесь Барскі**

## ПЛЕНУМ ГП БГКТ

**(Працяг са стар. 1)**

Праблемы, закранутыя ў абодвух прадстаўленых на пленуме дакладах, выклікалі надта жывую дыскусію. У ёй выступілі: **М. Вішанка, Н. Цывонюк, Ф. Галёнка, А. Мартыновіч, В. Бура, А. Карпюк, В. Швед, У. Юзвюк, Я. Зенюк, Ю. Крэтовіч.** Агляд праблемаў і спраў, пастаўленых у дыскусіі, памесцім у наступным нумары „Нівы".

Пленум высока ацаніў двухгадовую працу таварыства, асабліва ўклад у адзначэнне 30-годдзя Народнай Польшчы, а таксама ў актывізацыі асяроддзя, дзе яно дзейнічае, у напрамку павышэння вынікаў сельскагаспадарчай і прамысловай вытворчасці, пашырэння грамадскіх чыноў і далейшага разгортвання культурна-асветнай дзейнасці.

Пленум прыняў шэраг пастаноў, абавязваючых усю нашу арганізацыю. Яны ў многіх выпадках былі вынікам выказванняў у дыскусіі, і таму мы іх апублікуем услед за аглядам дыскусіі.

(мг)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"

**Дыскусія на снежаньскім пленуме ГП БГКТ ● Ахрымы ● Тытунёвыя турботы ● Барскі ў палоне ханты і мансі ● Жукроўскі аб беларусах ● Апошні набат кавальству ● Весткі з варшаўскага аддзела БГКТ, Рэпіскаў, Семяноўкі, Старога Ляўкова, Бароўшчыны, Дубіч Царкоўных, Новага Вострава, Шудзялава, Чаромхі, Белавежы, Гайнаўкі і інш. ● Песня з рэпертуару „Парціты" „Pytasz mnie, co ci dam".**




**Niedziela 5.I.** 6.30 Tech. Rol. Bot. 7.00 Mech. rol. 7.30 Kurs Rol. 8.05 Przyp., radz. 8.15 Bieg po zdr. 8.30 Now. w domu i zagr. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.30 Antena. 10.50 Ruch oporu w Polsce — film. 12.25 Dziennik. 12.45 Z doświadczeń gminy. 13.15 Pr. rozr. 13.45 Piórkiem i węglem. 14.10 Lektury Pegaza. 14.25 Dla dzieci. 15.05 Nie tylko dla pań. 15.30 Refleksje ob. 15.45 Bal na Grodzkiej. 16.35 Pr. film. 17.05 Los. Toto-Lot. 17.20 Postaw się — nie zastaw się. 18.10 Sport. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Droga. 21.20 Z najlepszymi życzeniami. 22.40 Sport.

**Poniedziałek 6.I.** 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Mech. rol. 14.50 Nurt — Nauki polit. 15.30 Sport. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.30 Echo stad. 17.55 Kur. Lub. 18.10 Śpiewa A. Kossakowska. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Szare na złote. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: J. Krasiński — Śniadanie u Desdemony. 21.40 Świadkowie. 22.25 Gra Kwintet Z. Namysłowskiego. 22.45 Dziennik. 23.00 Oferty.

**Wtorek 7.I.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Mech. rol. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) Ojcowski Park Nar. 10.20 Arsen Lupin. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Chem. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.05 Spacerkiem po kinach. 17.40 Studio Tel. Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Eureka. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Arsen Lupin. 21.10 Sport. 21.20 Interstudio. 22.00 Recital A. Rusowicz i Niebiesko-Czarnych. 22.30 Dziennik.

**Środa 8.I.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Chem. 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Fiz. Ciśnienie w cieczach. 9.30 Dziecko wojny — film fab. radz. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Hist. Rok 1863. 12.45 Tech. Rol. Fiz. 13.25 Upr. rośl. 14.40 Politech. Kurs przygot. Fiz. 15.50 Nurt — Psych. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla mł. widzów. 17.20 Los. Mał. Lot. 17.30 Teatr w domu — film jugosł. 18.00 Pr. rozr. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Happening we wsi Barnimie. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Dziecko wojny — film fab. radz. 21.55 Sport. 22.15 Wilhelm Hollender. 22.40 Dziennik.

**Czwartek 9.I.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 9.30 Człowiek, którego cena rosła — film fab. CSRS. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) J. pol. J. Słowacki. 12.00 (kl. VIII) K. Szymanowski. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Hod. zwierz. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Z siedmiu anten. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Świat, który nie może zaginąć. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr Kobra: H. Lawranse — Kompozycja na cztery ręce. 21.50 Sport. 22.00 Czym żyje świat. 22.30 Mąż dla naszej córki. 22.50 Dziennik.

**Piątek 10.I.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Hod. zwierz. 8.00 Droga. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Geogr. W tundrze i tajdze; 10.00 (kl. VI) Nad Odrą; 11.05 (kl. VII) Wych. ob. Nasze miejsce w szkole; 12.00 (kl. VII) Geogr. Francja. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Hod. zwierz. 14.40 Politechn. Kurs przygot. Mat. 15.50 Nurt — Psych. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.15 Wych. fiz. receptą na zdr. 17.40 Dla młodzieży. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Różdżkarze (Fakty, op., hip.). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Mój program przedst. W. Siemion. 21.20 Panorama. 22.00 Hanka Bielicka. 22.30 Dziennik. 22.45 Sport.

**Sobota 11.I.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o czł. Krążenie krwi. 9.30 Wdówka — film fab. franc. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Geogr. W Andach. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.20 Mech. rol. 14.50 Pr. dnia. 14.55 Pr. I prop. 15.10 Red. Szk. zap. 15.20 Kr. Warsz. i Maz. 15.40 Inf. Wyd. 16.00 Dziennik. 16.10 Sobótka. 16.30 Na pomoc dziełom — film dok. 17.00 Dla młodzieży. 17.50 Światłoczuły not. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Goya — film fab. NRD—ZSRR cz. II. 21.25 Wszystko za wszystko. 22.25 Dziennik. 22.45 Sport. 23.00 Euro. Konkurs Piosenki — 74.




**Piątek 3.I.** — 8.00 Film fab. 17.50 Film fab. 19.30 Koncert estrad. 20.55 Podróżny wiatr.

**Sobota 4.I.** — 8.00 Film fab. 9.35 Koncert życzeń 10.35 Film fab. 15.40 Film TV. 16.50 Film TV. 19.30 Panorama film. 21.00 Balet.

**Niedziela 5.I.** — 11.30 Film TV. 13.55 Panorama międzynar. 14.55 Koncert. 15.40 Film anim. 16.15 Klub film. 17.00 Koncert. 19.30 c.d. koncertu. 20.30 Sport.




**Białowieża** Mieć 20 lat — franc. 7—8. Cenny łup — franc. 9—10. Wiosna panie sierżancie — pol. 11—12.
**Czeremcha** Helga — RFN 7—8. Wilk morski — rum. 9—10. Zemsta wilka morskiego — rum. 11—12.
**Czyże** Niewygodny kochanek — włos. Ostatni po Bogu — pol. 8—12.
**Dubicze Cerkiewne** Wielka, większa i największa — pol. Przeciw Wranglowi — rum. 8—12.
**Gródek** Podróż w 30-lecie — pol. 11—12.
**Kleszczele** Wydra pana Grahama — ang. 7—8. Żółtodziób — radz. 9—10. Wiosna panie sierżancie — pol. 11—12.
**Michałowo** Albatros — franc. 7—8. Sindbat — węg. 9—10. Spalony las — rum. 11—12.
**Mielnik** Historia miłości — hiszp. 7—8. Nauczyciel śpiewu — radz. 11—12.
**Milejczyce** Ballada o Cablu u Hugue u — USA 7—8. Anatomia miłości — pol. 9—10. Dziewczyna na miotle — czes. 11—12.
**Narew** Motocross — czes. Prawo gwałtu — USA 8—12.
**Narewka** Potop — pol. 8—12.
**Nurzec** Kajtek i siedmiogłowy smok — węg. 7—8. Pomyłka szpiega — radz. 9—10. Anatomia miłości — pol. 11—12.
**Orla** Wspaniałe słowo wolność — radz. Podróż w 30-lecie — pol. 8—12.
**Rajsk** Był sobie glina — franc. Wyspa złoczyńców — pol. 8—12.
**Suchowola** Ostatni nabój — rum. Rodeo — USA 8—12.

B.Z.Graf. zam. 3691 O-2

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 192


* * *

Куранё ты маё нешчаслівае
Чаго ты чупурышся злосцю
я прынёс табе жменю зярнятак
вырасшых з нашага поля
твая злосць нібы хмара ліпнёвая
прыплыве і зноў адплывае
няхай зноў усмешка ўсмешцы
скажа пацішу: — кахаю.

**Алесь Барскі**



## Адыходжу ад сябе

*Адыходжу ад сябе*
*ад святла даўняга*
*ад усяго святога*
*для мяне колішняй*

*Адыходжу ад працы*
*ад думак і мараў*
*маіх бацькоў*
*Хачу зрабіць усё аднова*
*ад пачатку*
*па-мойму*

*Сягоння прысніўся мне*
*страшны сон*
*Мяне ацёвалі*
*як дзерава зялёнае*
*без рук, без ног*
*з цяжарнай пусткай...*
*... мне страшна*
*страшна за сябе*

**Ніна Гаўрылюк**



## Хачу...

У чароўнай краіне мараў
пражыць жыццё
і забыцца
у свеце ілюзіі
фантазіяй вымасціць
гняздо бясклапотна і цяпла
і ўбачыць шчасце
якога няма
Хачу
сцяной несвядомасці
адгарадзіцца ад рэчаіснасці
ад хлуслівага цяпла ўсмешак
і фальшу пачуццяў людскіх
расплывецца
краіна маіх летуценняў
пачарнее рэчаіснасцю
Хачу...

**Кастусь Бандарук**



* * *

У падарунку мне дай
сэрца са шкла
гарачага чыстага
каханне мне дай
як шкло
крухкае
сляза упадзе
сум запаўзе
у тое сэрца
ды скрышыцца як лёд
сэрца са шкла
гарачага чыстага
і каханне
са шкла
падаруй
за табою пайду на край
свету

**Вераніка Леанюк**

## ВАРШАВА

*Жыхарам сталіцы*
*у XXX гадавіну вызвалення*
*ад гітлераўскіх захопнікаў*
*прысвячаю*

Тваёй красы ранейшай я не бачыў,
Не меў цябе ў дзіцячых успамінах.
А ў сорак шостым быў я поўны плачу,
Калі ўваходзіў на твае руіны.

Тады была ты папялішча морам,
На кожным кроку чуўся подых смерці.
Цябе, Варшава, азвярэлы вораг
Хацеў ганебна з зямлі твару сцерці.

Хацеў цябе ён кінуць на калені,
З якіх ніколі не змагла б падняцца.
А ты, Варшава, як славуты Фенікс
Паўстала, каб квітнець і красавацца.

З зямлі прасякшай і крывёй і потам
Расцеш няспынна ўшыр і ўвысь, да сонца.
Сваіх палацаў ззяеш пазалотай
І захапляеш хараством бясконцым.

Дык уздымайся да вяршынь новых!
Авейвайся легендамі і славай!
Я ганаруся, што жыцця палову
Пражыў тут, у мурах тваіх, Варшава!

**Віктар Швед**



## Псалом о снові плыткому по коліэно

сон ружовы — от Бога
сон чорны — от чорта

в снові як в снігові
по коліэна куол
як полозуов
можна і в санках
можна і пуод санкамі

але хоч бы я вылізла зэ скуоры
нэ выду з сэбэ

так мніэ добрэ
в сюм мылові
в сюм матэрацові
в сюм абажурові
повэзло мніэ в зматэрялізованю:

нэ отэрлась я
о тіэнь крэматорюм

ну колісь то я сэбэ
пуодгляну
выпрэбую
в поворотові головы
в скрэнцэню карку
в руцьціэ з яблыком
а яблыко одэру
з всякеі заразы
і станэ лёгке
в жутові будэ сьміглэ
як яскуолка
а як зубы вбю
нэ зраню круля
нэ розобю спотканя
нэ прынэсу нэшчасьця

в снах о сны ружовы
молюся
хоч на пазурчык
в той сон
хоч по коліэна

**З. Сачко**



## ДАРОЖКА

Дарожка палявая, сум мой і радасць, і спачуванне маўклівае. У гадзіны роспачы бягу да цябе, дарожка пакінутая: зразумееш не пытаючы. Слёзы мае бавяць людзей, бавяць, бавяць, бавяць!!!

А калі радасць вялікую лёс мне падорыць, я ўсю яе табе прынoшу, дарожка ціхая. Ад уцехі шчырай, быццам зелень, бяжыш між пагоркамі аж да неба рассвечанага. Радасць мая засмучае людзей.

Цяжка мне, дарожка.

**Сакрат Яновіч**

## МАЯ УТОПІЯ

*Я хворы. Міякардыт слоў*
*Амаль у хранічным вымярэнні.*
*Дарма цягну я з сутарэння*
*Глухія гукі на святло.*

*З усходаў чорных пад ладонь*
*Намацваю адчайна бездань.*
*Хачу напоўніць жывым зместам*
*Стэрыльны, не тутэйшы дом.*

*Хачу, нядаўні кватарант*
*Новых эдэмаў на закуцці,*
*Звышпрыцягненне пачуццяў*
*На ланцуговы ўзяць канат.*

**Юрка Зубрыцкі**



## Чырвоныя яблыкі

Чырвоныя яблыкі
на талерцы
палаюць

Свежасць з іх б'е
агнём поўдня
промняў фантанам

Бляскам дыямента
зззяюць
нерухомыя

Мёртвыя яблыкі
на талерцы.

**Юрка Баена**

## Чорным па беламу

Здаецца, сёння белае ўсё. На белым свеце белыя дарогі. Толькі заімшэлыя бацькоўскія парогі кінуць — і ўжо яно. Самога бога, ты, здаецца, за бараду схапіў.

Белы, белы настане дзень. Ніхто не ведацьме, хто ты такі. І толькі ў песні, у святочнай, пад чарку, дзяўчына мыцьме ў рэчцы ручнікі.

І белы, белы матчын твар растане ў малочным тумане. Назаўсёды амаль. Каб не ведаў сусед. Пакуль доля ліхая не змане.

Белых бярозак прывідны чарод. Белых грыбоў ліхаманка пад восень ўжо сніцца, толькі, і мо не знарок, прагна хаваеш прыгаршні ў кошык.

Снежных юнацкіх мараў кужаль. Не затоптаных, сонцам абмытых, скрутак застаўся дзесь на гары, у хаце бацькоўскай, пад шчытам.

І бель, што вочы слепіць, дзявочых грудзей, каханнем налітых, як расой сенакос, вуснаў сухіх ужо не змочыць.

Здаецца, сёння белае усё. Па белым свеце белыя дарогі. Толькі крочыць.

Ды толькі словам бела, бела, беларускім прагна чакаеш, каб адгукнуўся хто.

**Юрка Геніюш**





**На памяць А. Францалі**

*падкурчыўшы ногі прыкрыўшысь легендай*
*упаў на калені спіною да сонца*
*застыўшы ў паклоне манахам пабожным*
*на фоне магутнай іконы прыроды*
*схаваў скамянелую тайну у сэрцы*
*барадой зялёнай абросшы па вушы*
*у мёртвай задуме філосаф спрадвечны*
*скамянелай легендай на ніве стаіць*
*застыўшае сэрца ягоныя вучні*
*грызуць на кавалкі металам халодным*
*і з іскар мазайку славутае праўды*
*кладуць над зямлёю гісторыяй зямлі*
*гісторыяй выкутай з сэрца нямога*

**Міхась Шаховіч**




*Першыя інжынеры сельскай гаспадаркі з Беластока.*

# ПЕРШЫЯ 36

Пачатак гэтага быў у 1969 годзе. Першая сустрэча ўлад тады яшчэ называемай СГГВ са студэнтамі адбылася ў Доме тэхніка ў Беластоку. Адбывалася ўрачыстасць уручэння першых заліковых кніжак студэнтам толькі што створыўшагася кансультацыйнага пункта варшаўскай СГГВ.

Нядаўна ў памяшканні Сельскагаспадарчага тэхнікума ў Дайлідах адбылася ўзнёслая ўрачыстасць — уручэнне першых дыпломаў інжынерам — выпускнікам беластоцкага кансультацыйнага пункта Сельскагаспадарчай акадэміі ў Варшаве. На ўрачыстасць прыбылі прадстаўнікі рэктарскай калегіі з рэктарам праф. др габ. Збігневам Мушынскім, прадстаўнікі ваяводскіх улад з прэзасам ВК ЗСЛ, намеснікам старшыні Прэзідыума ВРН Ежы Гжылчакам, а таксама кіраўнікі ваяводскіх прадпрыемстваў і ўстаноў, якія даюць працу інжынерам сельскай гаспадаркі.

Прарэктар акадэміі праф. др габ. Лешак Кушалеўскі ў сваім дакладзе асабліва моцна падкрэсліў, што гэта першы ў гісторыі выпадак, што дыпломы ўручаюцца па-за Варшавай.

Першы, але не апошні. Па прыкладу беластоцкай ініцыятывы акадэмія стварыла кансультацыйныя пункты і ў іншых мясцовасцях. Зараз на 9 факультэтах Сельскагаспадарчай акадэміі навучаецца 7,5 тыс. студэнтаў, сярод іх — 2,5 тыс. студэнтаў-завочнікаў. У бліжэйшы час плануюць стварыць два новыя факультэты: механізацыі сельскай гаспадаркі і вясковага гаспадарства.

Першыя 36 інжынераў сельскай гаспадаркі гэта людзі, якія рэалізавалі дзве праграмы: на месцы працы — праграму сельскай гаспадаркі, на „учэльні“ — праграму вучобы. Усе дыпламанты, нягледзячы на розныя цяжкасці, былі добрымі студэнтамі. Іх сярэдняя ацэнка — добра.

Цяпер беластоцкі кансультацыйны пункт налічвае на чатырох курсах 190 студэнтаў. Гэта абазначае, што кожны наступны год будзем узбагачацца 40-50 новымі інжынерамі, якія тут жывуць і працуюць.

Улады акадэміі прадбачваюць разбудову кансультацыйнага пункта ў Беластоку. Плануюць арганізаваць паслядыпломную вучобу ў Беластоку, выкарыстоўваючы дзеля гэтага мясцовыя навуковыя кадры. Будзе гэта звязана з агульнай праграмай паслядыпломнай адукацыі вуза, якая прадбачвае такую форму папаўнення ведаў раз на 4-5 год.

Супрацоўніцтва Сельскагаспадарчай акадэміі ў Варшаве з нашым ваяводствам адбываецца і ў іншых галінах. У 1974 г. 35 прац. магістэрскіх прац аб аграрных праблемах датычылася нашага ваяводства. Вучоныя акадэміі прымаюць удзел у розных навуковых арганізацыях Беласточчыны. Між іншым, дапамагалі навукова распрацаваць аўчарскую прадукцыю, а таксама інтэнсіфікацыю прадукцыі цукровых буракоў.

За гэтае супрацоўніцтва і за ўклад у развіццё сельскай гаспадаркі Беласточчыны пастановай Прэзідыума ВРН Сельскагаспадарчая акадэмія ў Варшаве ўзнагароджана медалем „Заслужаны для Беласточчыны“. Медалі атрымалі таксама прадстаўнікі рэктарскай калегіі.

Тэкст і фота **А. Карпюка**




*Е. Гжыбчак уручае ганаровыя медалі „Заслужаны для Беласточчыны“ членам рэктарскай калегіі. Першы злева рэктар праф. др З. Мушынскі.*




# Плённае і абяцаючае

На сваім пасяджэнні 15 снежня 1974 года члены **навуковага гуртка,** што дзейнічае пры ГП БГКТ, сканцэнтравалі ўвагу ў асноўным на дзвюх праблемах: ацэнцы вышаўшага летам 1974 г. „Навуковага зборніка“ пад рэдакцыяй др М. Кандрацюка і абмеркаванню плана чарговага яго выпуску.

Удзельнікі пасяджэння далі высокую ацэнку „Навуковаму зборніку“ з 1974 г., падкрэслівалі навуковае значэнне і адкрыўчую вартасць змешчаных у ім публікацый. Між іншым, кіраўнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Э. Смулкова заўважыла, што выхад у свет гэтага зборніка з'яўляецца вялікім дасягненнем навуковага гуртка БГКТ. У ім пераважаюць матэрыялы, прысвечаныя праблематыцы беластоцкага рэгіёну, і ў гэтым перш за ўсё заключаецца каштоўнасць выдання. Наогул у такога тыпу зборніках заўсёды трэба ставіць на рэгіяналізм М. Пецюкевіч, высока ацэньваючы большасць артыкулаў зборніка, выказаў патрэбу адвесці ў наступных яго выданнях больш увагі і месца публікацыям па этнаграфіі і фальклору ўсходняй Беласточчыны. Абмеркаваны былі таксама тэхнічныя недахопы выдання, але, як сцвердзілі выступаючыя, было іх нямнога.

Абмяркоўваючы план **наступнага выпуску** навуковага зборніка, члены пасяджэння разважылі запрапанаваныя тэмы публікацый. З іх знайшлі адабрэнне наступныя: Э. Смулковай *„Дасягненні і перспектывы беларускага мовазнаўства ў Польшчы“*, М. Кандрацюка *„Назвы частак вёсак на Беласточчыне“*, М. Чурак *„Даследаванні беларускага фальклору на Беласточчыне“*, А. Баршчэўскага *„Польскія зацікаўленні беларускім фальклорам“*, умоўна М. Гайдука *„Народныя песні вясенняга цыкла на Беласточчыне“*, М. Пецюкевіча *„Традыцыйная апрацоўка валакністых раслін на Беласточчыне“*, С. Яновіча *„Беларуская літаратура ў Польскай Народнай Рэспубліцы“*, А. Бергман *„Што прынеслі даследаванні аб Б. Тарашкевічу“*, Б. Манкевіча *„Падручнікі на беларускай мове, выдадзеныя ў Народнай Польшчы“*, Ю. Туронка *„Школьніцтва на Беласточчыне ў 1939-1944 гадах“*, Я. Зенюка і М. Гайдука *„Дваццаць год дзейнасці БГКТ. Роля БГКТ у асяроддзі“* і іншыя. Адначасова пасяджэнне рэкамендавала працягваць у зборніку раздзел *„Рэцэнзіі і агляды“* і ў далейшым публікаваць матэрыялы да бібліяграфіі *„Беларусы на Беласточчыне“*.

Пасяджэнне вырашыла звярнуцца да вучоных з БССР з просьбай падрыхтаваць у будучы зборнік публікацыю на тэму супрацоўніцтва паміж БССР і Польшчай у галіне грамадскіх навук, ці мовазнаўства або літаратуразнаўства.

Вырашана, што матэрыялы да новага „Навуковага зборніка“ павінны паступіць **не пазней, як у месяцы маі 1975** года.

Закрываючы пасяджэнне, старшыня навуковага гуртка **Ю. Туронак** падкрэсліў, што наступаючы 1975 год абяцае быць надта працавітым для членаў гуртка і асабліва яго праўлення ў сувязі з своечасовай падрыхтоўкай новага выдання. (іс)

**Кожнаму дразду жаль па сваім гнязду.**




## Нашанiўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XXXIII

**Проза.** „Апавяданне аб іконніку і залатару...“ мае праграмны характар. Выяўляюцца ў ім элементы мастацкага credo Багдановіча, яго погляды на мастацтва, на творчы працэс, на вартасць мастацкага твора. Фабула апавядання заснавана на размове двух беларусаў з часоў сярэднявечча. Адзін з іх — Антон Корж — залатнік, другі — Раман Якубовіч — маляр ікон. У фармальным і ідэйным сэнсе можам гаварыць аб пэўнай аналогіі, выступаючай паміж „Апокрыфам“ і „Апавяданнем аб іконніку і залатару“. У чым гэтая аналогія праяўляецца? У тым, што і ў першым і другім творы маем дачыненне са стылізацыяй мовы. У „Апокрыфе“ выступала стылізацыя „пад біблію“, у „Апавяданні аб іконніку і залатару“ — стылізацыя „пад сярэднявечча“. Другое падабенства праяўляецца ў тым, што ў адным і другім творы выкоўваецца ісціна ў дыялогу, у спрэчцы рэзка супрацьпастаўленых апанентаў. Трэцяя збежнасць выступае ў тым, што адзін і другі твор датычыць пытанняў, ці патрэбна мастацтва чалавеку, якім павінна быць мастацтва, якімі меркаваннямі павінен кіравацца ў творчым працэсе кожны тварэц. Гэтыя кардынальныя пытанні ў „Апокрыфе““ і ў „Апавяданні аб іконніку і залатару“ разгледжаны аднак на розных прыкладах. У „Апокрыфе“ пісьменнік спасылаўся на „супрацьпастаўныя“ паняцці васілька і коласа, музыкі і селяніна. Васілёк і музыка сімвалізуюць „дармаедаў“, колас і селянін практыцызм, карысць, матэрыяльную вартасць. У „Апавяданні аб іконніку і залатару“ Багдановіч прыбягае да іншых паняццяў. Праблемы вартасці мастацкага твора разглядае на прыкладзе зместу і формы гэтага твора. Карыстаецца пры гэтым параўнаннямі, пачэрпнутымі з галіны залатнога і малярскага рамяства. Пры нагодзе разглядае як жа істотную, для нашаніўскай пары праблему традыцыі і наватарства ў мастацтве, а таксама пытанне творчай свабоды чалавека, звязанага з мастацтвам.

Паслухайма вывады прыхільніка традыцыі, прыхільніка мёртвых канонаў у мастацтве, іконніка Рамана Якубовіча.

„Чуткі да мяне дайшлі, — гэтак прамаўляў іконнік Раман Якубовіч, — быццам Сальватар Роза, майстар умелы, а ў працы рупны і здольны, да нашага краю з зямлі Італійскай прыехаўшы, абразы на мурах цэркваў полацкіх з вучнямі сваімі малюе, старыну ў маляванні гэтым рухаючы, а навіны ўводзячы. Дзеля таго абразы тыя ад даўнейшых шмат чым розняцца, і гэтае людзям, у старыне цвёрдым, а да божай царквы прыхільным, сталася вельмі не да спадобы. Ды яшчэ кажуць, быццам італіец той, аб красе толькі дбаючы, а на збаўленне душы сваёй забыўшыся, паганскіх багоў і шмат чаго іншага малюе, аб чым іконніку добраму лепш нават і не думаць. Нічога гэтага ў жоднага з майстроў часу старага, а нам у прыклад стаўшага, пабачыць няможна. Найгорш жа тое, што іконнікі полацкія звычаю рускага, а ў працы здольныя і дасведчаныя, навіны гэтыя пераймаюць ды да таго ж і людзей усякіх нават роду паспалітага, а таксама і рэкі, бары і лугі шмат чаго іншага малююць, і час і працу сваю праз усё гэта марне трацячы“.

Вымова прыведзенай цытаты ясная. Якубовіч — праціўнік усякай навізны ў мастацтве, праціўнік ідэй, якія прынеслі людзі з захаду, праціўнік тых мясцовых мастакоў, якія ломяць старыя каноны мастацтва і ўводзяць у яго новыя формы і новыя тэмы. У далейшых сваіх вывадах Якубовіч выяўляе істоту сваіх мастацкіх поглядаў. Даказвае ён, што змест мастацкай карціны, а не форма акрэслівае яе вартасць. Якубовіч прыбягае да крайняга прыкладу: „Кожны зразумець можа, што святая ікона пана бога, хаця б і зусім няўдала зробленая, бязмерна больш варта, чым са пся якога-небудзь малюнак найлепшы“. Маем тут дачыненне з свабоднай ігрой уяўлення Багдановіча аб сярэдневякоўі.

Праўдападобна, рэлігійны чалавек Якубовіч ніколі не правёў бы такога параўнання. Не супастаўляў бы ікону з божым абліччам з карцінай, паказваючай сабаку. Было б гэта страшэннай ерассю. Пісьменнік, аднак, можа пазволіць сабе на свабодную ігру параўнанняў.

Апанентам Якубовіча ў творы з'яўляецца залатнік Корж. Яго выказванні маюць выразна акрэсленую ідэю.

„...думку, быццам ікона ўсягды вялікшую вартасць ад іншага малявання мае, я за несправядлівую мушу ўважаць. Бо не тое, каго майстра малюе, а толькі тое, як ён гэта робіць, толькі здольнасць і ўлежнасць яго могуць малюнку хвалу і каштоўнасць надаваць“ і далей:

„...прызнаць мы мусім, што каштоўнасць вырабаў прыгожых адно толькі праз красу іх форм узрастае і толькі красою форм каштоўнасць тут мерыць можна“.

Справа тут ясная. Для Коржа добра выкананая карціна, прадстаўляючая сабаку, мае большую вартасць, чым дрэнна зробленая ікона з божым абліччам.

Нельга не згадзіцца з Коржам. Няма сумненняў, што і Багдановіч у гэтай спрэчцы падтрымоўвае не іконніка Якубовіча, а залатніка Коржа. Пісьменнік з'яўляецца староннікам дамінацыі, прымату формы над зместам. Прыгажосць васілька, хараство ігры музыканта, прывабнасць мастацкай карціны або вырабаў з металу — гэта ўсё для Багдановіча формы выяўлення душы чалавека і спосабы ўзбагачэння гэтай душы.

 

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў „Дома кнігі“ ў Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Антон Чэхаў,** Ваш Ванька, стар. 32, цана 2 зл. 30 гр.

Папулярнае апавяданне вядомага рускага пісьменніка ў перакладзе на беларускую мову А. Якімовіча. Каляровыя малюнкі І. Някрасава.

**Васіль Вітка,** Выбраныя творы ў двух тамах, 1973, том першы — вершы, паэмы, казкі, стар. 418, цана 17 зл. 80 гр; том другі — лепшыя апавяданні, п'еса пра Я. Купалу, літаратуразнаўчыя артыкулы, стар. 400, цана 8 зл. 30 гр.

**Алесь Якімовіч,** Кастусь Каліноўскі, 1971, стар. 248, цана 6 зл. 10 гр.

Аповесць пра выдатнага беларускага рэвалюцыянера, кіраўніка паўстання 1863 года на Беларусі К. Каліноўскага — нашага славутага земляка, які паходзіць з Мастаўлян, што ў Беластоцкім павеце. Шэраг падзей аповесці адбываецца на тэрыторыі Беласточчыны.

**Усевалад Краўчанка,** Таямніца вугла альфа, 1973, стар. 224, цана 5 зл. 40 гр.

Зборнік лепшых апавяданняў пісьменніка. Іх героі — школьная моладзь. У кнігу ўвайшла таксама займальная аповесць „Злачынства на зялёнай тоні“.

Кнігарня высылае кнігі за паштовым залічэннем. Заказы кіруйце па адрасу: „Dom Książki”, 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

## ВЕР-НЕ ВЕР

У апошні час надзвычай модным стала друкаваць гараскопы. Вырашылі і мы не заставацца ззаду. Наш гараскоп — гэта галійскі гараскоп, які мае ўжо дзве тысячы год. Традыцыя звязвае яго з вераю друідаў, якія былі нечым накшталт капланаў-прарокаў, што жылі на тэрыторыі даўнейшай Ірландыі, Галіі і Брэтаніі. Перад тым, як распачаць дзейснае жыццё, кожны друід прабываў у адасабненні, жыў у лесе, які для яго быў „святым гаем“, там праводзіў час на чарадзейскай навуцы. Таму менавіта друіды надавалі такое значэнне лесу, дрэвам. Людзей і іх характары параўноўвалі яны з вядомымі для іх дрэвамі. Гаварылі, што кожны чалавек, так як кожнае дрэва, мае свае характэрныя рысы. Паводле іх, прызначэнне кожнага чалавека, яго будучыня, характар і здольнасці залежаць ад таго, як далёка знаходзіцца Зямля ад Сонца ў дзень яго нараджэння, гэта значыць, залежыць ад адлегласці, якая дзеліць дзень нараджэння ад пары веснавога ці асенняга зраўнання дня з ноччу (12 сакавіка і 23 верасня) і дзён зімовых і летніх перасіленняў (22 снежня і 24 чэрвеня). Дык спрабуйце паверыць на момант у гэты гараскоп і, забаўляючыся, праверыць, ці супадае ваш характар з пададзеным дрэвам.

### ЕЛКА

**(для народжаных ад 2 да 11 студзеня і ад 5 да 14 ліпеня).**

Прыгажосць елкі — суровая і халодная. Любіць старыя клейноты, прыцмёны свет, прыгожы запах духоў, розныя паважныя ўрачыстасці.

Аднак капрызная і не заўсёды лёгкая ў сужыцці з ёю. Часта адчувае сябе адзінокай нават у вялікім калектыве. Амаль не паддаецца чужым уплывам, але рэдка выказвае і сваю думку. Зрэшты, наогул не надта размоўная і не занадта вясёлая. Але амбітная і ўмее дасягнуць пастаўленую перад сабой мэту.

У каханні рэдка бывае задаволена. Вельмі шмат вымагае ад іншых. Хоча мець многа ўсяго, паколькі дасканала разумее свае станоўчыя бакі, і найчасцей ёй гэта ўдаецца. Аднак і ёй здараецца закахацца без памяці, і тады валіцца цэлы яе ўласны свет. Яе каханне можа быць бязмежнае. Елка бывае вельмі інтэлігентная, мае аналітычны розум і схільнасці да навукі, але не заўсёды мае ў ёй добрыя вынікі. Здараецца нават, што працуе ў галіне, якая не мае нічога супольнага з яе ўпадабаннямі ці дыпломам.

Да працы падыходзіць сур'ёзна і добрасумленна і дакладна выконвае свае абавязкі. А мае іх найчасцей шмат.

Калі павінна нешта вырашыць, дык сярод розных магчымасцей выбірае найцяжэйшую. Цяжкасці — свае і іншых — гэта яе спецыяльнасць. Елка — высакародная. Што б не здарылася, можаш на яе разлічваць. У кожнай сітуацыі ўмее захаваць надзею і веру.

Елка мерыць высока. Вялікую сатысфакцыю заўсёды ставіць перад дробнай прыемнасцю.

**Астрон**

## Зімовым вечарам у клубе



Моладзь з вёскі Зубава, што на Бельшчыне, здаўна марыла мець клуб. Калі ў гэтым годзе была закрыта школа ў вёсцы, яна папрасіла ў асветных улад, каб адступілі ёй пустуючы будынак. Як толькі атрымалі дазвол, уласнымі сіламі і сродкамі адрамантавалі і памалявалі будучы клуб. Найбольш часу папрацавалі самі арганізатары чыну Мікалай Вязоўскі, Лявон Вязоўскі (старшыня гуртка ЗСМВ), Міхась Карпюк і іншыя. Калі будынак быў адрамантаваны, кіраўніцтва прадпрыемства „Рух“ у Бельску абсталявала ў ім клуб. Было гэта ў верасні. Загадчыцай клуба стала маладая дзяўчына Ніна Карпюк (на здымку).

Цяпер у доўгія зімовыя вечары ў клуб прыходзіць многа моладзі і старэйшых. Тут вельмі прыемна. Падрыхтаваны выстаўкі кніжак і падабраны насценгазеты. У клубе можна пачытаць прэсу, правесці час за настольнымі іграмі, паслухаць музыку. Ёсць усе ўмовы для культурнага жыцця. Моладзь намерана арганізоўваць танцавальныя вечарыны, згадуй-згадулі, арганізоўваць сустрэчы з цікавымі людзьмі.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### Перамаглі настаўнікі

30 лістапада 1974 года закончыліся ваяводскія спаборніцтвы найлепшых каманд сяткоўкі, якія дзейнічаюць на прадпрыемствах і ва ўстановах. Першынство і кубак ЦРЗЗ (Галоўнай рады прафсаюзаў) заваявала настаўніцкая каманда з Гайнаўшчыны. У апошніх розыгрышах перамагла яна каманду сяткоўкі з беластоцкіх „Ухвытаў“, настаўніцкую каманду з Беластока і каманду малачарскага кааператыва ў Алецку.

Каманда пераможцаў з Гайнаўкі выступала ў складзе: Сяргей Юзючук, Мікалай Врублеўскі, Юры Янюк, Васіль Цімафеюк, Анатоль Герман, Уладзімір Раманюк, Юры Валкавыцкі, Ян Козак, Уладзімір Сідорскі, Леанард Кульваноўскі, Уладзімір Сцепанюк, Аляксандр Бірылка і Пётр Сцепанюк.

(ця)

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

ВАЛАЧОБНАЯ




*Ходзіць пава па гуланьцы, гэй, віно!*
*Ходзіць пава па гуланьцы, віно!*
*Роніць пер'е па мураўцы, гэй, віно!*
*Роніць пер'е па мураўцы, віно!*
*А за ею трох малойцаў, гэй, віно!*
*А за ею трох малойцаў, віно!*
*Трох малойцаў-рыбалоўцаў, гэй, віно!*
*Трох малойцаў-рыбалоўцаў, віно!*
*Пер'е бралі ў хусту клалі, гэй, віно!*
*Пер'е бралі ў хусту клалі, віно!*
*З хусты бралі, вянок вілі, гэй, віно!*
*З хусты бралі, вянок вілі, віно!*
*Звіўшы венец, пайшлі ў танец, гэй, віно!*
*Звіўшы венец, пайшлі ў танец, віно!*

Ад Дзянісік Марфы, 1905 года нараджэння, вёска Гураны Сакольскага павету, запісаў 4 кастрычніка 1974 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

**У ГАЙНАЎСКІМ БЕЛАРУСКІМ ЛІЦЭІ**

## ГУРТОК МАЛАДОГА КАРЭСПАНДЭНТА

У Гайнаўскім агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў прыгожа абсталяваным па-народнаму (мастаком Корзунам) кабінеце беларускай мовы адбылася надзвычай цікавая сустрэча творчай моладзі ліцэя (паэты, карэспандэнты) з журналістамі „Нівы“. Быў гэта ўрачысты момант стварэння гуртка маладога паэта і карэспандэнта. Складае яго моладзь ліцэя, якая вядзе жывую перапіску з „Нівай“, пішучы і прысылаючы вершы, апавяданні, інфармацыі і заметкі з жыцця сваёй школы, горада і сваіх вёсак.

На арганізацыйным сходзе гуртка прысутнічала некалькі дзесяткаў вучняў з усіх класаў ліцэя. Пётр Кірызюк, Аліна Швед, Валя Анішчук, Юрка Красапольскі, Оля Ігнацюк чыталі свае вершы.

На сустрэчы прысутнічаў дырэктар ліцэя мгр Уладзімір Сцепанюк. Ён выказаў сваю радасць з прычыны арганізавання творчага гуртка ў ліцэі, абяцаў падтрымку і дапамогу. Падкрэсліў прыдатнасць літаратурна-публіцыстычных зацікаўленняў вучняў у вывучэнні роднай беларускай мовы.

Суарганізатарам гуртка маладога паэта і карэспандэнта з'яўляецца гайнаўскі аддзел БГКТ, які будзе і ў далейшым шчыра апекавацца маладымі паэтамі і карэспандэнтамі „Нівы“.

Была прынята цікавая і багатая праграма працы гуртка, якая прадбачвае семінары і гутаркі на розныя літаратурныя тэмы, азнаямленне з жыццём і працай любімых пісьменнікаў і паэтаў.

Аб працы і дасягненнях гуртка будуць у большасці пісаць самі члены гуртка — вялікі і надзейны калектыў маладых карэспандэнтаў „Нівы“.

(вл)

## Уступны семестр тэлевізійнага тэхнікума

У лютым 1973 года наша тэлевізія ўключыла ў праграму лекцыі Тэлевізійнага сельскагаспадарчага тэхнікума (ТТР). Стварыла гэта магчымасць для тысяч маладых людзей атрымаць сярэднюю сельскагаспадарчую адукацыю без адрыву ад сельскагаспадарчых заняткаў і неабходнасці даездаў на заняткі ў школу.

Навучаннем у Тэлевізійным сельскагаспадарчым тэхнікуме могуць карыстацца ўсе тыя, хто працуе ў сельскай гаспадарцы і хто хоча атрымаць дыплом тэхніка сельскай гаспадаркі. Пачаць навуку ў ТТР могуць толькі тыя, хто закончыў прафесіянальную (засаднічую) сельскагаспадарчую школу або школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (СПР), тры ступені сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР), або тыя, хто мае пасведчанне кваліфікаванага рабочага ці дыплом майстра ў сельскагаспадарчым спаборніцтве.

Практыка паказала, што найбольшыя цяжкасці маюць вучні з польскай мовай і „сціслымі прадметамі“. Прычынай гэтага быў доўгі перапынак у сістэматычнай школьнай навуцы, недахоп умеласці самаадукацыі, а таксама рассеянне па тэрыторыі слухачоў. Асветныя ўлады прыйшлі да вываду, што гэтыя цяжкасці ў значнай меры можа зменшыць ранейшая падрыхтоўка кандыдатаў да навукі. Дзеля гэтага зыходным пунктам да 1 семестру будзе **ўступны** семестр (ад лютага па чэрвень 1975 г.). Будзе гэта новая дапамога ў выглядзе тэлевізійных лекцый, прызначаных для выпускнікоў прафесіянальных сельскагаспадарчых школ (ЗСА) і СПР, якія закончылі даўнейшую сямікласную пачатковую школу, а таксама для выпускнікоў калектываў ПР, кваліфікаваных рабочых і майстроў сельскай гаспадаркі.

Штотыдзень, пачынаючы ад 3 лютага 1975 г., тэлевізія па І праграме будзе перадаваць тры лекцыі па матэматыцы, дзве па польскай мове і адну лекцыю, якая будзе дапамагаць у арганізацыі самаадукацыйнай працы і паясняць цяжэйшыя пытанні.

Ва ўсіх справах трэба кансультавацца з інспектаратамі сельскагаспадарчай асветы аддзелаў сельскай гаспадаркі, лясніцтва і скупкі ў сваім павеце або з нашай рэдакцыяй (Redakcja tyg. „Niwa”, ul. Wesołowskiego 1, 15-950 Białystok)

А вось адрасы інспектаратаў асветы:

Urząd Powiatowy, Wydział Rolnictwa Leśnictwa i Skupu, ul. Słonimska 38, 15-028 Białystok, tel. 330-49.

Urząd Powiatowy, Inspektor Oświaty Rolniczej, ul. Kopernika 1, 17-100 Bielsk Podlaski, tel. 331.

Urząd Powiatowy, Inspektor Oświaty Rolniczej, pl. XX-lecia PRL, 17-200 Hajnówka, tel. 20-11.

Urząd Powiatowy, Inspektor Oświaty Rolniczej, ul. Wyzwolenia 6, 16-200 Dąbrowa Białostocka, tel. 219.

Urząd Powiatowy, Inspektor Oświaty Rolniczej, ul. Gen. Świerczewskiego, 17-300 Siemiatycze, tel. 281.

Urząd Powiatowy, Inspektor Oświaty Rolniczej, ul. Długa, 16-100 Sokółka, tel. 460 lub 2241.

А.К.



*На мастацкай выстаўцы сёлетняга белавежскага пленэру ў Доме настаўніка ў Гайнаўцы.* Фота Я. Цялушэцкага



 

 

# Заколядоваў

Мніе було тогды шіесць ліет, вельмы захотіелось пуйты колядоваты. Роздобуў я скуолёсь дэсэть грошы довоенных і побіег до дядька Ванькі, коб прыняў до своеі групы. Зайшоў, сказаў „здраствуйте“, зняў шапку і сіеў на лавцы, бо дядько Ванька із свэю жуонкою Манёю, сэдячы на пэчіе, іграў у карты. Спэршу на мэнэ нэ обращчалі вніманія і наветь нэ отказалі на поздоровленіе. Однако, загнавшы однэ другого в дурня, Ванька пэршы глянуў на мэнэ і спытаў: „Чего ты прішёл і сыдыш, нэ бачыш, же Колі нэма?“ (Коля то буў іх сыном — старшым од мэнэ на тры рокі). Ванька калечыў рускі язык, хотыеўшы потрапыты за жуонкою, котора була родовытою росіянкою. „Да, да — поўторыла Маня, — чего ж ты сидиш, если Коли нет, мы тебе не друзья.“ „А я до Колі нэ прышоў, — говору, — я прышоў до вас, просыты, коб віетэ прынялі мэнэ колядоваты“. „Га-га-га“ — Ваня з Манею на пэчіе зареготалі, а я мусыт покраснеў, бо мніе стало встыдно. Высмыявшісь і повытыраўшы кулакамы очы, дядя Ваня сказаў: „Дэж ты прэшся, як ты шчэ мэншы ад мого Колі, куолько тобіе ліет?“ „Ліетом будэ сыем“, — адказую, — бо осенью трэба будэ іты до школы“. „О, бачыш, старуха-рэпетуха, мае шыесьць ліет і хочэ іты коледоваты“. „Да, да, старух-рэпетух, он ещё слишком мал, чтобы идти со звездой, ведь там надо петь и звезду носить, а ты мал, ты мал...“ „А петь ты ўмееш хоч што-нібудь?“ — зноў пытае Ваня. „Уміею дужо пысень руздзвяных, бо наўчыўся од бабуоў, як булі ў нас на прадках“. Ваня і Маня шчэ мэнэ высмыялі, але бачат, шчо нэ ўступаю, і Ваня пытае: „А грошы маеш на г'язду?“ „Да, да, — поўторае Маня, — а деньги у тебя есть? Надо ж купить бумагу, свечки, чтоб звезду еделать красивой“. „Маю, — говору, — дэсэть грошы“ і хучыей вымаю с кішэні, коб нэ роздумалісь, бо мніе ўжэ аж плакаты хочецця зо страху, жэ нэ прымут. Ваня зобачыў, жэ напраўду грошы маю, зліез з пэчы, а Маня за ім. Ваня кажэ: „Но, то прымемо тэбэ, бо ты кумуў сын і сырота. Коб хто другі — нэ прынялі б. Твоя нэбуошчыця маты хрыстыла мого Колю, то і прымэмо“. „Да, да, — як попугай поўторае Маня, оно по-рускі, — ты сирота и кумов сын, так мы со старухом-репетухом тебя примем и ты уже будешь чужой десятый, хватит“. Мэнэ з радосці чуть нэ розпэрло. Оставыў ім грошы, которы ўзяў од мэнэ Ваня, даў Мані, а тая кінула іх у торбочку і положыла до сундука. Прыбіег до дому рады, як на сто коні сыеў, жэ пуйду коледоваты. Бачу, шчо моеі радосьці нэхто нэ роздыляе, а наоборот — мачоха злуосна, жэ аж кіпіт, і туолько совае дулі мніе пуод нуос, а батько спытаў: „Ну шчо, Ванька Страпко прыняў колядоваты?“ „Прыняў, таточку, прыняў, — крычу, — і зобачытэ, куолько грошы зароблю. Куплю ядёр і цукіеркуў собіе, Івановы і Ніны“ (Іван і Ніна — діеты мачохі). „Гамно ты заробыш, — набормушоны одказуе батько, — оно дэсэть грошы як у с... усадыў“.

А я рады, шчо пуйду колядоваты, оно тяжко ждаты, бо шчэ тыждэнь до руздва. Як було то було, бо навэт нэ муог ночамы спаты, але ўже заўтра ідэм заробляты грошы.



*Калядніκі.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

Прышоў жаданны дэнь, а мы ўжэ од раня біегаем до Ванькі і тіешымся. Праўду говорыўшы, то г'язда (так у нас говорат) нэ вельмі була хороша, бо Ванька на убране іе выдаў усёго 20 грошы, бо купыў туолько 2 аркушы папэру. Одын зрасходоваў на ліцовую часць — мы то называлі днуом — а другі аркуш — на кутасы до рогуў. Задне дно з оконком зробыў з газеты. Всё цыела „г'язда“. Хтось із старшых назваў іе бубном і так осталось. Но, але ідэм колядоваты. Ванька жыў мэнш-буольш посэрэдыны сэла. Зобралісь мы ў його, і Ванька говорыт: „Я буду носыты г'язду, а віетэ туолько голосно спывайтэ, а хто будэ носыты грошы — выбырайтэ“. Усе хлопці выбралі мэнэ, бо наймэншы, то нэ обману. „Ладно, — згодыўся Ванька, — но смотры, як згубыш, то ўб'ю“. „Ніе, — думаю, — нэ згублю, дайтэ но мніе носыты“.

Ванька злапаў „бубна“, а мы чэрэдою за ім пушлі займаты од кунця. Грабовец — сэло вэліке, а моя хата стояла пуод номэром 13. Ванька ныкого нэ пытаў, чы можна колядоваты, оно просто входыў до хаты, а мы за ім, і одразу спывалі. Так што, пока дойшлі до мэі хаты, міелі ўжэ дужовато грошы. Ванька туолько выйшоў з подвуорка моёго батька і одразу обсудыў, жэ я шчэ замалый, коб носыты грошы. Забраў од мэнэ торбочку і оддаў свому Колі. Колядовалі мы далей з такою самою охвотою і ўтіехою, аж дойшлі до хаты Ванькі. Тут оддыхнулі, покінулі заробок до пуў сэла і пушлі далей.

Кончылі колядованне пуозно вэчэром. Усіе охрыпшы і до остатка вымучаны. Я змэрз у ногі, бо бошмакі пэрэтэклі, а ў рукі, бо бэз рукавіц. Вэрнулісь до хаты Ванькі і давай дыліты грошы. Ваня і Маня ўжэ „забулі“ про тыі грошы, шчо до пуў сэла, і до подіелу высыпалі на стуол оно тыі од пуоў. Грошы забрашчалі, а мніе зробылось тэплієй з радосьці. Ванька начаў роскладаты на купкі. Получылось 13 купок. Хтось з нас крыкнуў, жэ нас есць 12, а нэ 13. Але Ванька згасыў його тым, жэ трэба даты і туой, шчо хату пылновала. Усіе замоўклі, а Ванька дыліў. У кунціе-кунцоў усіем вышло, і навэт Мані, по 42 грошы, а мніе 41. Но, але нэ було кому одняты, коб мніе доложыты — то раз, а по-другое — я наймэншы, то і так добрэ. Я тэж з тым згодыўся і задоволёны побег до дому, коб хучэй пахвалітысь. Але ўдома ныхто мэнэ нэ ждаў, з'елі вэчэру і ляглі спаты. Так шчо я, змучаны, охрыпшы і голодны, але довуольны, жэ заробыў туолько грошы, прыніюс з сыены „постыель“, пословаў, як заўшэ, на лаўці коло окна і лёг спаты. Однако ж сон мэнэ нэ браў. Схватыўся ранютко, шчэ ўсе спалі і чым хучіей до дядька. Забіег і крычу: „Дядько, зобачтэ, куолько ў мэнэ грошы. Я вчора заколядоваў. Шчэ меў бы буольш, оно вуон мэнэ ошукаў, бо своюой Мані даў 42 і до пуў сэла, а мніе оно 41“. „Ого, го, ной у тэбэ грошы! — подбодроваў мэнэ дядько Роман, — а шчо ж ты будэш з іх робыты?“. „Куплю ў Барана ядёр і цукіеркуў“, — одказую. „А можэ дасы мніе, я куплю тытіуну? — сказаў дядя, мамін брат, і напраўду забраў од мэнэ ўсе грошы собіе на тытіун. От тобіе я і заколядоваў на ядра і цукеркі.

**Васіль Петручук**

## Куток практычных ведаў




### ЯК ПАВІННА АПРАНАЦЦА ЦЯЖАРНАЯ ЖАНЧЫНА

Пачаўся карнавал, і ў сувязі з гэтым мы, нетыпова, хацелі б даць некалькі парад для цяжарных жанчын адносна іх вопраткі. Цяжарнасць, хаця многія жанчыны наракаюць, з'яўляецца адным з найцудоўнейшых перыядаў у жыцці жанчыны. Свядомасць, што яна дае жыццё новаму чалавеку, упрыгожвае жанчыну на твары. Што датычыцца фігуры, то нельга апранацца ў гэты перыяд абы-як, а наадварот, старацца як мага лепш падабраць адпаведную вопратку.

Не варта адмаўляцца таксама ад розных карнавальных вечароў і гасцін. Не трэба сароміцца свайго стану. А ў сувязі з гэтым варта пашыць нейкую выхадную вопратку для гэтай мэты.

Наогул нават цяжарная жанчына павінна апранацца ў меру модна. Зразумела, перш за ўсё павінны гэта быць простыя сукенкі спартыўнага фасону, так званыя сукенкі-кашулькі, найлепш з нейкага аднатоннага ці ў клетачку матэрыялу. Можна пашыць таксама сарафан, пад які можна апранаць штораз то іншыя блузачкі ці свіцеры. Можна пашыць спадніцу з даўжэйшай блузкай з мяккага ваўнянага матэрыялу. Але ў сувязі з тым, што ў апошні час модныя надалей доўгія штаны, лепш пашыць касцюм: доўгія штаны плюс даўжэйшая блузка з такога ж матэрыялу.

Калі вы выбіраецеся на вечар, найлепш было б апрануць вопратку такіх самых фасонаў, толькі пашытую з нейкага шоўку ці больш элегантнага ваўнянага матэрыялу.

**Сяброўка**






*Прысніўся мне кароль Беларусі, а каралём гэтым быў Кастусь Каліноўскі.*

Увосень 1863 года паўстанне ў Польшчы загасла.

Яго зарыва на Беларусі і Літве ўсё яшчэ лунала. Беларусы чакалі вясны, каб, узяўшы самаробную зброю, а таксама косы і сякеры, ісці ваяваць! За волю — за Беларусь без цара і паноў.

Так мела быць.

* ⁂ *

Палкоўнік Лосеў падыйшоў да акна: над Вільняй — яснае неба, падвяселены сонцам горад супакойвае нервы.

Ён вярнуўся з нарады ў генерал-губернатара Мураўёва, дзе давялося яму выслухаць прыкрую вымову ў сувязі з тым, што ўзначальваемая ім контрразведка не змагла да гэтага часу напасці на след новага, кіруючага цэнтра паўстання на Беларусі і Літве.

„Ім здаецца, што даволі моцна хацець, а рэшта самое зробіцца!“ — палкоўнік злаваў на губернатара і ягоных блізкіх. Сеў за стол ды ўзяўся гартаць дакументацыю апошніх следстваў і аператыўныя зводкі агентуры. Паглыбіўся ў паперы. „Усё гэта без істотнага значэння, — думаў аб чытаным. — Распрацоўка цэнтра, кіруючага паўстаннем, не можа адбыцца пры дапамозе агентуры. Паліцыя не мела і не мае, ды наўрад ці будзе мець агентаў, якія б здолелі адыграць ролю партнёра ў кантактах з небяспечнымі інтэлігентамі, не выклікаючы прытым падазрэнняў з іх боку і здабываючы давер у такой ступені, калі даходзіць да размоваў па шчырасці, адкрывання тайніц. Гэта немагчыма!“ — заключыў, і перад вачыма Лосева паўсталі тупыя твары сышчыкаў і ўсялякіх прадажнікаў, якія сэнс чалавечага жыцця бачылі ў грашах і распусце. Праца была для іх пакутаю і таму, ідучы ў паліцыю, яны спадзяваліся перш за ўсё лёгкага хлеба. Ён ненавідзеў іх і адначасова ўсведамляў сабе, што іначай не можа быць!

Перагледзеў абы-як пісаныя, з памылкамі, кароценькія тры рапарты сышчыка, які ўжо два месяцы сочыць за кватэрай нейкай Марыі Грыгатовіч, западозранай у сувязях з паўстанцкімі канспіратарамі: час ад часу заходзіць да яе мужчына, які, быццам дух, знікае потым у закавулках Вільні. „Гэты спрытнюга, відаць, найбольш насцярожвае няўдалага шукальніка мяцежнікаў... Было б да смеху, калі б аказалася, што з'яўляецца ім усяго толькі пранырлівы каханак, якому на галаве сядзіць сварлівая модніца з дзіцём, брыдкая жонка, — палкоўнік, усміхнуўшыся, пазваніў, каб падалі яму чаю з піражным. — Расканспіраванне цэнтра з'яўляецца надзвычай складанай і сур'ёзнай аперацыяй. Патрэбны тут не прадажнікі; зрэшты яны не робяць кар'еру, не заходзяць высока, бо не хапае ім вытрымкі, сілы волі, якую можа даць бязмежная вера ў ідэю. У расканспіраванні цэнтра патрэбна здрада! Вялікая здрада, а гэта не тое самае, што прадажніцтва. Здрада такая з'яўляецца ў выніку ідэйных разыходжанняў... — прынеслі чай. — Дарэчы, разважаю ўсляпую, без арыентацыі...“

Палкоўнік Лосеў абціх. У яго роце далікатна хрумсцела піроЖнае, удыхваў прыемны пах мацавітага чаю. Неяк міжвольна ўспаміналася яму падарожжа ў Мінск, у месяцы кастрычніку. Вёў там следства па справе групы арганізатараў паўстання, якраз схопленых. Адзін з іх, Парафіяновіч, расклеіўся.

— Гэта вашы рэчы? — запытаў яго тады палкоўнік Лосеў, указваючы на знойдзеныя пры ім матэрыялы.

— Я ж гаварыў: так, мае! — адрэзаў Парафіяновіч.

— Хто вам перадаў іх: імя і прозвішча таго, адрас? — дапытваў дзеля фармальнасці. Паўстанцы не прызнаваліся.

— Не ведаю, — Парафіяновіч гусцеў ад напружанасці.

— Эй жа, — Лосеў пазяхнуў. Хацелася піць.

Паставіў на арыштаванага вочы, поўныя кпіны. „Браток, не са мною такія штукі! Браток ты мой, не са мною, не...“ — казалі вочы. У канцавой камеры — білі, якісьці вязень манатонна крычаў. „Прасцяцкія метады!“ — Лосеў пагарджаў цвёрдалобымі, паліцэйскімі падафіцэрамі з быдлячым характарам, якім здаецца, што болем магчыма дабіцца практычна ўсяго!

— Чаго вы мучыце мяне?! Хутчэй вешайце, маскалі праклятыя! Вешайце!! — выбухнуў Парафіяновіч, пабялеў. Ён увесь сканцэнтраваўся ў сабе, выкрыкваў голасам пракляцця.

Палкоўнік Лосеў спакойна памаўчаў.

— Пане Парафіяновіч, вы інтэлігентны чалавек, а крычыце, выбачайце за параўнанне, быццам буян з гарбарнай Пагулянкі, — лагодна ўставіў. І зараз жа заўважыў на свой ужытак: „Нельга абражаць таго, каго дапытваеш. Гэта ўзмацняе ў ім упартасць!“

А Парафіяновіч:

— Ці не здаецца вам, палкоўнік, што чалавеку, якога чакае смерць, ужо ўсё роўна, як гаварыць: ветліва або пагрубіянску...

— Захавайце годнасць, пане Парафіяновіч.



 

# ТРЫБУНА чытачоў




### МОРА

*Кінуцца з берага*
*ў грудзі халоднай хвалі.*
*Навошта?*
*Каб плысці, каб быць усё далей,*
*Каб знайсці месца,*
*дзе сонца начлег мае,*
*а жаўранак гняздо песняй будуе...*

*А ты, хваля, плюй у твар*
*брызгамі пены,*
*кідайся мора ў звар'яцелы тон.*
*Закружыцца свет,*
*як у чортавым коле...*

*І змучанага, бяссільнага,*
*мора выкіне на бераг,*
*каб мог пагрэцца і кінуцца*
*зноў на грыву хвалі.*

**Юрка Панасюк**

### ЗІМА

На дварэ бялюткі снег ляжыць,
Прыгожымі сняжынкамі блішчыць,
Гэта ўсё зрабіла суровая зіма,
У якой ласкі для цяпла няма.

Яна ўсіх дзяцей ачаравала,
На вокнах збожжа намалявала.
На полі па калені намяло,
Ад холаду аж дух ўсім заняло.

Дзяцей са школы высыпалася шмат,
Яны весела разбегліся да хат,
Адразу лыжы налажылі,
Ды аб санках не забылі.

**Яўгенія Юрчук,**
в. Койлы

### МАКРЭНЬСКАЯ СВЯТЛІЦА

*У Макрэньскай святліцы*
*Людзі рвуць нагавіцы.*
*Прыходзяць у старым адзенні,*
*Бо баяцца абнішчэння.*

*Калі холад ударае,*
*Мужык кажух накладае,*
*І тады тэлевізар*
*Паўгадзіны аглядае.*

*Печка ёсць, а чым паліці?*
*Хоць скідай ты нагавіцы,*
*Кабы печку напаліці*
*І святліцу ўміліці.*

*Так ёсць у той нашай святліцы,*
*Печка ёсць, а чым паліці?*
*Лава ёсць ды асцярожна! —*
*На яе прысесць не можна.*

**Адважны**

## У ЧАРОМХАЎСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

Чаромхаўская бібліятэка знаходзіцца ў невялічкім пакоі мясцовага дома культуры. Тут таксама змяшчаецца чытальня. Прыемна зайсці сюды ў вольны час. І малады, і стары знойдзе сабе тут занятак. Можна пaглядзець тэлевізар, пачытаць газету, часопіс і кніжку, пагуляць у шахматы ці шашкі. Таму вечарамі чытальню наведваюць многія жыхары пасёлка.

У бібліятэцы працуюць дзве бібліятэкаршы: Марыся Саласцюк і Зіна Маркевіч. Гэта вопытныя працаўніцы. Добра ведаюць сваю прафесію. Кожны, хто ўпершыню наведвае бібліятэку, атрымае дакладную інфармацыю аб аўтарах і кніжках, якія знаходзяцца ў бібліятэцы. Бібліятэка мае каля 8 тыс. тамоў кніжак (у тым ліку 374 беларускія і 246 — на рускай мове). Чытаюць іх 404 пастаянныя чытачы. Дзесяць асоб чытае беларускія кніжкі. Гэта пераважна вучні гайнаўскага і бельскага беларускіх ліцэяў. Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца раманы і кніжкі пра вайну. Чытае іх не толькі моладзь, але і старэйшае пакаленне. Трэба адзначыць, што ўзрост чытачоў і прафесія — вельмі розныя. З бібліятэкі карыстаюцца школьнікі і чыгуначнікі, настаўнікі і земляробы.

Чаромхаўская бібліятэка ахоплівае раён гміны, у якім дзейнічае каля 10 бібліятэчных пунктаў. Сюды таксама ўключаюцца пункты з чыгуначных станцый Гайнаўкі і Нараўкі. Аднак абмен кніжак у гэтым раёне недастатковы з увагі на далёкую адлегласць ад бібліятэкі. Да найлепшых пунктаў можна залічыць: пункт у вёсцы Чаромсе, у якім працуе Надзя Дудэль, у Ставішчах (А. Кашмалюк), Зубачах (Зіна Максімюк) і ў Кузаве (Марыя Раманчук).

Найбольш кніжак у гэтым годзе прачытаў 72-гадовы Тамаш Дубковіч (каля 100 штук). Ён працаваў сторажам у прафесіянальнай школе ў Чаромсе. Цяпер ужо пайшоў на пенсію і пераехаўся ў Гайнаўку, дзе стаў чытачом павятовай бібліятэкі. З моладзі найбольш чытае Лявон Шыкула — працаўнік ПКП, а з жанчын — 67-гадовая Сцепаніда Зіневіч і Надзя Каральчук.

**Мацейка**

## Шклянка гарачага малака ў школе ў Кнышэвічах

У школу ў Кнышэвічах ходзяць дзеці з дзвюх вёсак — з самых Кнышэвіч і Слоі. Да гэтага года ў школе не давалі дзецям гарачага малака. Цяпер дырэктар школы Зоя Кулакоўская пастаралася, каб дзеці пілі малако. Гэта вельмі добрая справа і дзецям, і бацькам. Шклянка гарачага малака каштуе ў месяц 35 зл.

**Т. К.**

## Над магілай салдата

На Гайнаўскай зямлі загінула звыш 1200 салдат і афіцэраў Савецкай Арміі.

Магілы іх былі раскінуты па ўсім павеце, і жыхары навакольных вёсак апекаваліся імі. Паўстаўлялі бярозавыя крыжы і, калі ведалі прозвішчы, прыбівалі таблічку.

У 1950 г. улады Гайнаўскай зямлі рашылі сабраць усіх загінуўшых у адно месца і зрабіць супольныя могілкі салдатаў Савецкай Арміі.

Месца выбралі прыгожае. На акраіне горада, на ўскраі Белавежскай пушчы. У братнія магілы сабралі астанкі ўсіх вядомых і невядомых салдат. Праз некалькі год Гарадская рада даверыла апеку над салдацкімі магіламі рабочым хімічнай фабрыкі.

Апекуны апраўдалі давер. Магілы аббетанавалі, паставілі помнікі, на якіх напісалі прозвішчы загінуўшых, калі яны былі вядомыя, а на іншых напісалі „невядомы салдат". Увесь могільнік абгарадзілі ладнай агароджай.

Жыхары Гайнаўкі не забываюць пра сваіх вызваліцеляў. Тры разы ў год збіраюцца на могілках, каб аддаць гонар тым, што адыйшлі. Робяць гэтак напярэдадні Дня перамогі, свята вызвалення Польшчы і перад днём Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Не афіцыйныя, але таксама масавыя візіты на салдацкія магілы адбываюцца на дзень памершых — 1 лістапада. Побач з салдацкімі могілкамі знаходзяцца ў Гайнаўцы іншыя гарадскія могілкі і ў гэты дзень кожны, хто ідзе на сваю магілу, заходзіць і на салдацкія і тут запальвае свечку, складаючы загінуўшым асаблівую падзяку. Памяць тут у людзей жывая. Мо і нашым салдатам, загінуўшым у свеце, у дзень гэты хто-небудзь запальвае агеньчык.

**Э. Вайсковіч**

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Ад поля грамадзяніна Б. няма праезду да дарогі. Б. ездзіў праз поле суседа, але ў апошні час у іх узнікаюць непаразуменні. Б. карыстаўся праездам здаўна, бо яшчэ яго бацька перад вайной ездзіў таксама. Цяпер сусед забараняе праязджаць і пагражае, што праезд загародзіць. Ці можна патрабаваць праз суд, каб сусед не перашкаджаў карыстацца праездам?

АДКАЗ: Калі б сусед загарадзіў праезд, можна было б патрабаваць праз суд, каб ён не перашкаджаў праязджаць і разабраў плот. Калі ён толькі на словах забараняе праязджаць, то няма асноў падаваць у суд, каб той забараніў суседу перашкаджаць праязджаць праз яго поле. Аднак сусед мог бы звярнуцца да суда з патрабаваннем забараніць праезд праз яго поле. Незалежна ад таго, ад якога часу Б. і яго бацька праязджалі праз поле суседа, суд забараніў бы праезд. Таму трэба памірыцца з суседам і ўрэгуляваць па-добраму справу праезду, а калі б сусед не згаджаўся на гэта або намерваўся падаць у суд, Б. павінен дабівацца праз суд устанаўлення сэрвітуту дарогі праз поле суседа за адпаведную кампенсацыю.




**Надзея Дудзік, Гарадок.** Ваш верш „Хлопец з 1948" не зможам надрукаваць, а „Восень" надрукуем.

**Юрка Панасюк, Бельск.** „Мора" надрукуем.

**Валянцін.** „Гэты верш я напісаў нядаўна на ўроку беларускай мовы. Усе мае сябры таксама пісалі тады вершы. Скажу ім, каб таксама пісалі ў „Ніву". Дарагі Валянцін, верш можна друкаваць у „Парнасіку" і можна яго падпісаць так, як хочаш, але пры тым рэдакцыя хоча, а нават павінна ведаць дакладна, як завешся і твой адрас. Калі ласка, падай нам усё гэта.

**Міхась Асеннік, Аўгустова.** Надрукуем верш „Каханне", другі „Няшчасная доля" здаецца надта штучным.

**Яўгенія Юрчук.** На жаль, у вас выйшла проза (цікавая нават), а не верш. Звярніце ўвагу на рытміку.

**Я. М. Па.** Вашу інфармацыю не зможам надрукаваць, тым больш, што не падаеце (хоць бы толькі да ведама рэдакцыі) свайго прозвішча і адрасу. Просім, пішыце нам усё аб жыцці і дасягненнях вёскі. Будзьце нашым карэспандэнтам.

**Ірына Грыгарук, Давідавічы,** вуч. Бельскага беларускага ліцэя. Верш „Падляшша" надрукуем. З прыемнасцю чыталі так акуратна напісаны ліст.

### БУДЗЕ ГАДОЎЛЯ АВЕЧАК

Сельскагаспадарчы гурток у Гуранах на Сакольшчыне гаспадарыць на лёгкай зямлі — V і VI класы. Ды дзякуючы добрай апрацоўцы і прымяненню мінеральных угнаенняў збіраюць яны добры ўраджай — 23-25 цэнтнераў з гектара жыта і аўса. Сеюць многа грэчкі і лубіну, але гэтыя культуры не заўсёды тут удаюцца.

Цяпер сельскагаспадарчы гурток у Гуранах накіраваў увагу на гадоўлю авечак і першы ў Сакольскім павеце пабудаваў для гэтага два хляўкі. Будзе пакуль што 600 штук, а потым павялічаць стада.

У гуртку 40 гектараў сенажацяў, з якіх будзе корм. Толькі што яны занядбаны, амаль дзікія, трэба іх добра ўгноіць. Гурток думае адпусціць кусок слабейшай зямлі на летнюю пашу для авечак, але і тут найперш трэба засеяць лубін, на ім вырасце добрая трава.

**Т. К.**

### ДЛЯ ЖАНЧЫН

Гмінная спулдзельня „Самапомач хлопска" ў Гайнаўцы адкрыла новую краму на вуліцы Вызвалення. Крама вялікая. Яна прызначана для жанчын. Тут прадаюцца матэрыялы і гатовыя ўборы.

Гайнаўскія жанчыны будуць цяпер яшчэ прыгажэй апранацца і прыгажэй выглядаць.

**Раса**

### ВЯЛІКІ КЛОПАТ ВЁСКІ НАВІНЫ

Мы, жыхары вёскі Навіны, Нараўскай гміны, Гайнаўскага павету, звяртаемся з просьбай да цябе, рэдакцыя „Нівы", — дапамажы нам.

Вось ужо два гады прайшло, як ПЗДЛ у Гайнаўцы абараў нам механічным плутам наступныя адрэзкі даяздных дарог да вёскі: Катлоўка-Навіны — даўжынёю 500 м, Навіны-Кавела — 700 м і ад Кавелы да шашы Ласінка-Трывежа. У 1973 годзе адрамантавалі дарогу Навіны-Кавела, але гэты адрэзак ані для Навін, ані для Кавелы не надта прыгодны, бо да гэтай лепшай дарогі даезду з вёскі, як не было, так і няма.

А тыя дзве іншыя дарогі так і ляжаць абвораныя. Ідуць яны праз зямлю 3 класа — гэткая глеба зусім не прапускае вады. Дык на дарозе зрабілася карыта, у якім заўсёды стаіць вада. Заваліліся і пропусты. Праезду ў нашу вёску няма. Не даедзе не толькі аўтамашына, але нават трактар. Бедны конь і той, калі трэба перацягнуць гэтай „дарогай" воз з хворым да шашы, так мучыцца, што прыстае. Калі трэба даставіць парсюка ў скупку, тады запрагаюць двое, а нават трое коней і гэтак выцягваюць воз на шашу.

У выпадку пажару ў нас згарыць уся вёска, бо не даедзе пажарная каманда, хіба што верталётам, калі ёсць такая магчымасць.

Хуткай дапамогі ніхто ў вёску не кліча, а хворага вязуць канём у Ласінку, там з ім стаяць на вуліцы і чакаюць, пакуль прыедзе хуткая дапамога.

У мінулым годзе ГС у Нарве хацеў даставіць у нашу вёску мінеральныя ўгнаенні, дык два трактары „Урсус 4011" з адной прычэпай цэлы тыдзень стаялі загразнуўшыя ў балоце. А потым былі вымушаны задам вылезці з балота, а ўгнаенняў так і не прывезлі.

У 1974 годзе, у месяцы лістападзе наша вёска, як і ўсе іншыя, хацела скарыстацца з баніфікаты пры пакупцы ўгнаенняў, але не змагла, бо чым давезці?

Два гады гэтак цягнецца і не прадбачыцца паляпшэння, хоць некалькі разоў ужо ездзілі мы да кіраўніцтва ПЗДЛ у Гайнаўцы. Таксама ставілі справу на розных сходах, на гмінных сесіях. Нават начальнік гміны Нараў падтрымлівае нас. Кіраўнік ПЗДЛ аднак не прыхіляецца да просьбы, самі, кажа, рабіце. А гэта ж проста насмешка з нас. ПЗДЛ робіць дарогі ў іншых месцах, а да нас прыехаць пабачыць не хоча.

Грамадскія чыны мы рабілі: абкопвалі равы, закладалі пропусты. І ў далейшым гатовы працаваць чынам, каб толькі была дапамога і арганізацыя. Просім зацікавіцца нашай справай!

**Жыхары вёскі Навіны**

---

— Прашу без насмешак!

Агрызнуўся, у вачах слёзы.

Лосеў прыкмеціў слёзы — і вырашыў, так сказаць, прыгледзецца ім. Сказаў:

— Не ўсе арыштаваныя — аднолькава вінаваты, — схамянуўся: „За груба гуляю гэту партыю. За груба!" Чакаў, што адкажа ён, прыкладна, так: „Ці мая віна ў тым, што змагаўся я за свабоду свайго народу? Калі так, дык судзіце, каты!"

Але Парафіяновіч змаўчаў.

Палкоўнік не настайваў на размове. Сядзелі. Пачынала выглядаць на заклапочаную гутарку бацькі з сынам.

— Тут смерць, ці ў Сібіры... — яхідна адказаў палкоўніку, не даканчыўшы фразу. Пераняўся смерцю. З'явілася гэта незаслужанай удачай следства, якую правідловей было б акрэсліць як спрыяльную акалічнасць.

— Вы малады чалавек і таму не павінны паміраць, — Лосеў падбіраў „ключ"; пачаў ад простага. Адчуваў, што гэты чалавек можа здрадзіць, а нават прадацца! Настроіў голас: — Выбачце, пане Парафіяновіч, за маю грубую шчырасць: скажу вам, што тыя людзі, за якіх вы гатовы памерці, каб гэтаксама яны былі гатовы памерці за вас, справа паўстання не стаяла б так дрэнна, — пахваліў сябе: „Брава, палкоўнік Лосеў!" Уголас сказаў: — Гэта маё шчырае меркаванне чалавека гонару.

Угледжваючыся ў Парафіяновіча, чакаў. Зрабіўшы намёк на здрадніцтва, фактычна не меў у руках ніякіх довадаў, кампраметуючых яго сяброў ці асяроддзе, з якога выйшаў. Што і казаць: паставіў на пусты банк!

Парафіяновіч раптам заплакаў.

— Самі бачыце, што жыццё ваша — у вашых руках! — ужо не трэба было іншага „ключа". — Як кажуць, кожны з'яўляецца кавалём свайго лёсу, — укусіўся ў язык: „Што я пляту? Я перасаліў!" — падумаў, гледзячы ў стол; гідзіўся мужчынам, які плача, сядзіць у крэсле і плача. Яшчэ загаварыў да яго, нават не думаючы. — Я разумею вас і, паверце, мне прыкра... Вельмі!

На шыбе пабзыквала сонная муха.

— Вы зможаце гарантаваць мне... — „жыццё", трэба было сказаць. Парафіяновіч не падняў галаву, не гаварыў: пане палкоўнік.

Лосеў пачуўся, як бы толькі што раздалі карты і ён трымае ў руках козыр! Каб не гарачыцца, перачакаў малую хвілю.

— Поўнасцю, — сказаў з саліднасцю. Без хібінкі.

Парафіяновіч паглядзеў знізу: на мундзір, на каўнер, бараду, нос; у вочы не паглядзеў. Згас.

— Запішыце: матэрыялы ад Вітажэнца, жыве ў Вільні, у Святаянскіх мурах. Усё! — адвёў дух. Так дыхае пацыент пасля таго, як лекар вырве яму зуб: тупы, але ўжо плыткі боль.

— Усё?

— Усё.

(Працяг будзе)

NIWA Skr. poczt. 149 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch" Indeks 36911/36671.

